АДНАДНЕЎКА. Цана 20 гр.

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.

Адрэс Выдавецтва: Вільня, Кіеўская 4—24.

6 Ліпеня 1932 г.



## Аб Агульным Сходзе Т. Б. Ш.

Справа Агульнага Сходу Т. Б. Ш. сталася ў 1930 годзе пільнай пасьля арышту ў жніўні паслоў клюбу „Змаганьне" Гаўрыліка, Дварчаніна, Валынца, Грэцкага і Крынчыка, якія ўваходзілі ў склад Галоўнай Управы, з якой выбыло аж 5 сябраў з ліку 12.

Арыштаваньне ў кастрычніку 1930 году яшчэ чатырох сябраў Галоўнае Управы — Стэцкевіча, Пяткевіча, Шырмы, і Марцінчыка пазбавіла Галоўную Управу магчымасьці наогул весьці якуюколечы працу. Дзеля вядзеньня спраў Т-ва і ў першую чаргу скліканьня Агульнага Сходу сябрамі Нагляднай Рады і Галоўнай Управы, якія засталіся на волі, была абрана Дачасная Камісія ў складзе Алёхны, Цераха, Кізевіча і Астравецкага. Пасьля звальненьня з турмы ў студзені 1931 году Пяткевіча і Шырмы Галоўная Управа пераняла справы ад Дачаснай Камісіі і вызначыла Агульны Сход на 22 лютага. Аднак Сход быў забаронены на тэй падставе, што Галоўная Управа ня мела кворуму (статутовага ліку сяброў) дзеля прыняцьця пастановы аб сходзе.

Пасьля новага арышту сяброў Пяткевіча і Шырмы і узнаўленьня дзейнасьці Дачаснай Камісіі справа Сходу затрымалася на мейсцы. Пасьля зьліквідаваньня ўладамі Дачаснай Камісіі працу Т-ва пераняла Галоўная Управа, арыштаваных сяброў якой пазвальнялі па аднаму.

Галоўная Управа у складзе: Стэцкевіча, Шырмы, Пяткевіча, Марцінчыка, Кузьміна і Кізевіча на паседжаньні 2 верасьня 1931 году пастанавіла склікаць якнайхутчэй Агульны Сход. Каб не сьцягваць дарэмна дэлегатаў з правінцыі, калі Сход забараняецца адміністрацыяй напярэдадні вызначанага тэрміну, а зьехаўшыяся дэлегаты адпраўляюцца на нейкі час ў цэнтральны арышт — Галоўная Управа прызнала, што трэба дабіцца ад улады наперад згоды на Сход. З гэтай мэтай да п. Ваяводы віленскага была паслана дэлегацыя у складзе Стэцкевіча, Кузьміна і Кізевіча. П. Ваявода заявіў, што яшчэ не пасьпеў пазнаёміцца са станам Т-ва на Віленшчыне і пакуль што ня можа даць адказу — дасьць дазвол на Сход, ці не — і сказаў, каб даведацца праз нейкі час.

Наступным разам былі прыняты п. Ваяводай віленскім прадстаўнікі Галоўнай Управы Стэцкевіч і Шырма ў лістападзе 1931 г. П. Ваявода сказаў, што Сход зьбіраць можна, толькі калі зьбярэцца камуна, то панясе адказнасьць. Пасьля гэтага Галоўная Управа пачала падгатоўку да скліканьня Агульнага Сходу, тэрмін якога быў вызначаны на 12 красавіка 1932 году.

За які тыдзень перад тэрмінам Сходу Стэцкевіч і Шырма былі выкліканы ў Староства, гдзе ім было заяўлена, што вызначаны на 12 красавіка тэрмін не дагаджае ўладам, а новы можа быць вызначаны не раней 10 траўня. Тут жа Стэцкевічам і Шырмай быў пададзены тэрмін 12 траўня. Высланыя запросіны на Сход былі адкліканы.

За дзён дзесяць перад новым тэрмінам Сходу п. Ваявода віленскі паклікаў старшыню Стэцкевіча і заявіў, што не дапусьціць на Сходзе прадстаўніцтва ад паасобных гурткоў, як непрадбачанага статутам. Старшыня зазначыў, што пры існуючых цяпер трох Акружных Управах — у Беластоку, Косаве і Баранавічах — на сходзе можа быць толькі дванаццаць поўнапраўных прадстаўнікоў правінцыі. На гэта п. Ваявода абяцаў, што змогуць адбыцца паятовыя зьезды і там, дзе няма цяпер Акружных Управаў, і што ў іншых ваяводзтвах (Беластоцкім, Навагрудзкім і Палескім) адносіны адміністрацыі у гэтым напрамку будуць узгоднены. П. Ваявода зазначыў, што цяпер значны уплыў на паасобныя арганізацыі Т-ва маюць камуністы і даючы цяпер дазвал на Сход ён з пэўнасьцяй быў бы змушаны зачыніць Таварыства, таму ён дае тры месяцы часу, каб пад-

гатавацца да сходу і пазбыцца камуністычных уплываў. Будучы Сход пакажа, ці Таварыства, можа існаваць надалей, ці улады змушаны будуць яго зьліквідаваць.

Пасьля гэтага Прэзыдыюм Галоўнаў Управы спыніў разсылку паведамленьняў аб Сходзе, якіх няшмат было разослана, аднак і не паведамляў аб забароне, хочучы бачыць хаця нячысьленых прадстаўнікоў правінцыі, каб даведацца аб стане Таварыства на мясцох.

З тымі дэлегатамі, якія прыбылі у Вільню нарадзіцца і атрымаць справаздачы не удалося, бо іх адразу пасьля прыходу у памешканьне Галоўнаў Управы адпраўлялі дзяжурыўшыя там агенты паліцыі сьледчай у выдзял сьледчы, скуль пазьней адпраўлялі да хаты.

На падставе пазьнейшых нарадаў Галоўнай Управы з некаторымі прадстаўнікамі правінцыі намечана была арганізацыя Акружных Упраў ці то склікаўне павятовых зьездаў у паветах Сакольскім, Гарадзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Пружанскім і Вялейскім.

З мэтай усталеньня з прадстаўнікамі ўлады спосабаў арганізацыі Акружных Управаў, ці хацяб склікаўня павятовых зьездаў у тых паветах, дзе ёсьць нашыя арганізацыі ў ваяводзтвах Беластоцкім, Навагрудзкім і Палескім, таксама дзеля навязаньня сувязі з мейсцамі старшыня Стэцкевіч ад 30.V да 2.VI б. г. пабываў у Белястоку, Баранавічах і Навагрудку і быў прыняты беластоцкім Віцэ-ваяводай, баранавіцкім Старастай і ў Навагрудку Старастай і Ваяводай.

Прадстаўнікі ўлады згодна заяўляюць, што зачыняюцца арганізацыі Таварыства толькі такія, якія знаходзяцца пад уплывамі камуністычнымі, а дзеля нацыянальнай працы, хацяб і радыкальнага напрамку перашкод ня робяць. Тольэі п. Староста баранавіцкі як матыў зачыненьня падаў яшчэ бяздзейнасьць Акружнай Управы і гурткоў.

Аднак гэтыя масавыя абвіненьні мейсцовымі уладамі ў камунізьме арганізацыяў і працаўнікоў Т-ва ў агромнай бальшасьці ня маюць конкрэтнага характару, прытым найчасьцей ускладаецца адказнасьць на цэлыя арганізацыі за паасобныя адзінкі.

Ня глядзючы на зачыненьне ў апошнім часе Баранавіцкай Акружнай Управы і 82 гурткоў у паветах Стаўпецкім, Навагрудзкім, Слонімскім і Баранавіцкім—мы не павінны спыняць прыгатаўленьняў да Агульнага Сходу, дзеля таго ў першую чаргу пастарацца дабіцца адчыненьня нанова гурткоў у пералічаных паветах і арганізацыі нанова Акружных Управаў, ці хацяб склікаўня павятовых зьездаў у гэтых паветах, а такжа ў паветах: Пружанскім, Ваўковыскім з Бельскім, Гарадзенскім з Сакольскім і Вялейскім.

Толькі пры нармальным дзеяньні вышэйшых органаў Т-ва, як Агульны Сход і Галоўная Управа, можа нармальна разьвівацца праца Таварыства.

Таму трэба напружыць усе сілы, каб давесьці да Агульнага Сходу, абяцанага п. Ваяводай віленскім і захаваць Таварыства, як апалітычную беларускую культурна-асьветную арганізацыю.

# Стан і праца Т-ва Беларускае Школы.

Т-ва Беларускае Школы, самая магутная і распашыраная ў Заходняй Беларусі культурнаасьветная арганізацыя, займае пачэснае мейсца ў адраджэньні Беларускага Народу.

На працягу свайго дзесяцілетняга існаваньня, да 1926 году пад назовам Цэнтральнай Школьнай Рады, Т-ва вядзе барацьбу з цемраю пераважна сярод вясковае люднасьці і змагаецца з палянізатарскімі тэндэнцыямі тых польскіх культуртрэгераў, якія ня хочуць прызнаваць Беларускага народу за народ і ставяць нязьлічаныя і нялюдзкія перашкоды разьвіццю яго мовы і культуры.

Ў змаганьні за родную асьвету было заснавана каля 500 гурткоў, болей 200 бібліятэк-чытален і болей сотні народных дамоў. Пасьля прыняцьця Соймам у 24 годзе так-званых языковых законаў Тугута-Грабскага Т-ва пачынае змагацца і за урадавую беларускую школу. На працягу часу ад 29—30 школьнага году было складзена некалькі дзесяткаў тысяч школьных дэкляраций на блізка 500 камплектаў школ.

Дзякуючы такому магутнаму ўздыму нацыянальнае сьведамасьці ў шырокіх масах беларускага сялянства, школьныя ўлады былі прымушаны адчыніць каля 65 урадавых „беларускіх" і так званых утраквістычных школ. На жаль гэта інтэнсыўная праца над пашырэньнем роднае мовы і культуры сярод нашага народу спатыкае шмат перашкодаў з розных бакоў.

Ў 28 годзе пачынаецца масавая ліквідацыя арганізацыяў Т-ва: адразу было зачынена 6 Акр. Упраў і болей ста самых актыўных гурткоў, прычым у Вялейскім павеце культурна-асьветная праца Т-ва была забаронена пад „rygorem odpowiedzialności karnej".

Повадам для зачыненьня Акружных Управаў і гурткоў галоўным чынам падавалася „нефармальнае вядзеньне рахунковасьці і дзелаводзтва".

Такая ліквідацыя не спыняецца і да апошніх дзён. Інтэрвэнцыя ў уладаў памысных вынікаў не дае. Ў пачатку бягучага 32 году зачынена Мірская Акружная Управа і 31 гурток Стаўпецкага павету; зачынена Баранавіцкая Акружная Управа і 2 гурткі; спачатку быў толькі завешаны, а пасьля і зусім зьліквідаваны Віленскі Навасьвецкі гурток, а на днях атрымана паведамленьне Навагрудзкага Ваяводы аб ліквідацыі 26 гурткоў

ў Наваградзкім павеце і 27 ў Слонімскім. Ува ўсіх пералічаных выпадках ў паведамленьнях нават не паданы прычыны, выклікаўшыя такія крайнія меры.

Вынятак робіць толькі Новасьвецкі гурток, аб якім сказана, што праца яго выходзіла за рамы статуту.

Лік сябраў ў гуртках ліквідаваных ў апошнія часы даходзіць да 3000. Пазасталася і працуюць яшчэ 2 Акружных Управы і каля 150 гурткоў з лікам сябраў болей 4000. За час падрыхтоўкі да зьезду было прынята Галоўнаю Управаю новых сябраў 107 і зложана заяваў на арганізацыю 7 новых гурткоў.

---

Што-ж было зроблена Т-вам за апошнія часы ў галіне роднае асьветы?

Справаздачы аб працы, атрыманыя Галоўнаю Управаю ад некаторых гурткоў, гавораць аб вялікай ахвярнасьці сябраў Т-ва і вялікай зацікаўленасьці працаю з боку мясцовае люднасьці

Для прыкладу можна паказаць хаця бы Косаўскі павет, дзе на 25 гурткоў даўшых справаздачы ёсьць 22 бібліятэкі-чытальні з агульным лікам 2 250 беларускіх кніг. За 1931 г. гэтымі гурткамі было зладжана 44 спэктакляў-вечарын, даход ад якіх даў 1.120 зл, расходны буджэт гэтых гурткоў выносіць за той-жа 1931 г. 858 зл. 71 гр. За тры першых месяцы бягучага 1932 году тымі-ж гурткамі ўжо было зладжана 25 спэктакляў-вечарын з даходам 410 зл. 44 гр. Усё гэта пры нашых варунках працы і пры крызісе трэба прызнаць за калясальны высілак і вялікі дадатні вынік працы.

У Стаўпецкім павеце ў мінулым годзе амаль кожны гурток ладзіў спэктаклі.

Асабліва адзначаліся: Вяліка-Жухавіцкі гурток, які зладзіў 15 спэктакляў-канцэртаў і выяжджаў у суседнія вёскі, а з пачатку свайго існаваньня зладзіў болей 40 спэктакляў; Стара-Сьвержанскі гурток меў вельмі д бры беларускі хор, выяжджаў таксама у суседнія вёскі і на конкурсе хораў у Стаўпцах атрымаў 2-ю нагараду. Добра працавала драматычная сэкцыя Трошчыцкага гуртка, якая ладзіла спэктаклі і ува ўсіх суседніх вёсках. Лукскі гурток ад пачатку існаваньня зладзіў б лей 30 спэктакляў. У некаторых гуртках Стаўпеччыны часта адбываліся рэфэраты з гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўства і беларускае літэратуры.

У Беластоцкім павеце хіба што найлепей п ацуе Гарадоцкі гурток, дзе нават стала існуе беларускі тэатр, бо спэктаклі ладзяцца рэгулярна што два тыдні; пры Пяшчаніцкім гуртку тагож Бел. павету адчынены вячэрнія курсы для дарослых.

У Ваўкавыскім павеце Ельцаўскі гурток ладзіць спэктаклі заўсёды пры перапоўненай салі Народнага Дому, пры чым бывае так, што артыстам прыходзіцца пьесу два разы за вечар паўтарыць, каб даць магчымасьць большаму ліку глядзельнікаў пачуць на сцэне свае роднае слова.

Шэнеўскі гурток Пружанскага павету ладзіць тэатральныя прадстаўленьні ня толькі у сваей вёсцы, а нават часта выяжджае са сваімі спэктаклямі (калі толькі удаецца дастаць дазвол) у павятовы горад Пружаны, дзе беларускія прадстаўленьні гуртка заўсёды праходзяць з поўным маральным і матар'яльным пасьпехам.

У нашых умовах, пры поўнай адсутнасьці пачатковага беларускага школьніцтва, такія спэктаклі, рэфэраты, хоры, бібліятэкі, зьяўляюцца заступнікамі роднае школы. Там, дзе ёсьць Т-ва, пануе беларуская думка, там ствараюцца беларускія настроі, там народ насупроць усялякіх перашкодаў сваімі рукамі творыць родную культуру, прывыкае адважна з надзеяй глядзець на сваю будучыню. Пасьля гэтага нічога дзіўнага няма ў тым, што пры будове гуртком ўласнага Народнага Дому вёска дае у вадзін дзень 60 фурманак і 300 рабочых (в. Сенькавічы), або пры ахвярах на залажэньне бібліятэкі з ліку 130 гаспадароў вёскі адмаўляюць ахвяр якіх 4 асобы (Харошчыцы Навагр. п.).

Вялікі дадатні ўплыў мае Т-ва і на вясковыя звычаі. Бязупынку вядзецца барацьба з пьянствам.

Дзе раней на вясельлі ў гаспадара выпівалась сотня бутэлек гарэлкі, там нават гады 3 назад пад уплывам Т-ва ўжо абыходзіліся на такім вясельлі заледзьве 3-мя бутэлькамі. Калі ў некаторых вёсках да залажэньня гуртка моладзь пры спатканьні сватоў ставіла „рагаткі" і брала выкуп гарэлкаю, а пасьля гэтага ўпраўляла дзікае пьянства, то пасьля залажэньня гуртка для такога ж спатканьня моладзь будуе зялёныя аркі, ставіць сталы пакрытыя белымі кілімамі і вітае маладых хлебам-сольлю. За такое прыгожае спатканьне дружына маладых звычайна дае шчодрыя ахвяры на культурную працу, найчасьцей на залажэньне бібліятэкі-чытальні.

Такія звычаі былі найболей распашыраны ў Стаўпецкім і Наваградзкім паветах.

Падаючы на гэтым мейсцы да ведама ўсіх гурткоў і сяброў Т-ва атрыманыя намі больш яскравыя факты культурнае працы Галоўная Управа выражае усім прыслаўшым справаздачы сваю падзяку, просячы іх, а такжа і тыя гурткі, якія дагэтуль не далі аб сабе вестак, прысылаць у будучыні дакладныя справаздачы аб сваей дзейнасьці. Адначасна засылаем усім гурткам і сябрам Т-ва пажаданьні сьвежых сілаў і бадзёрасьці ў сваей працы.

# Аб беларускім школьніцтве.

Гісторыя беларускае школьнае асьветы ў Польшчы уяўляе вобраз паступовага, няумольнага занападу.

Запраўды, яшчэ гадоў 10 таму назад беларусы ў межах Польшчы мелі соткі пачаткавых школ (К. Срокоўскі у кніжцы „Sprawy narodowościowe na kresach wschodnich", стр. 11 — ужо у 1917 г. налічвае 350 белар. пачаткавых школ), мелі 6 гімназіяў і 2 вучыцельскіх сэмінарыі. Праўда, гэтыя школы не стаялі на вышыні ўсіх пэдагагічных вымаганьняў (польскія школы таго часу не рабілі вынятку): ім не хапала арганізацыі, адпаведнага пэдагагічнага пэрсаналу, школьных падручнікаў і г. п. Але пры ўсіх недахопах гэта былі запраўдныя беларускія школы, бо выкладоваю моваю была мова беларуская, падручнікі ужываліся беларускія і вучыцелямі былі беларусы з паходжаньня; яны усьведамлялі і дзяцей і наагул беларускае грамадзянства ў духу нацыянальных ідэалаў, паглыблялі любоў да роднае мовы і літэратуры, пашыралі родную кніжку і песьню і г. д.

Але вось, пачынаючы ад 1922 году культурныя здабыткі беларусаў, створаныя вялікаю ахвярнасьцяй і грамадзкім высілкам народу пачалі адна за аднымі „w sposób drastyczny" (Srokowski) ліквідавацца.

Першае адчула на сабе гэта пачаткавае беларускае школьніцтва. Пасьля рэкорднага 1920—1921 году, калі колькасьць белар. пачаткавых школ перавышала 500, лік пачаткавых белар. школ у наступным школьным годзе раптам зьніжаецца да 30 — 40, а ўжо ў 1924 г. на усю Заходнюю Беларусь застаецца, па дадзеным „Белар. Календара" на 1924 г., у Віленшчыне „некалькі школаў", у самай Вільні замест ранейшых 7, толькі 2, у Горадзеншчыне—1, а ў Навагрдзкім і Палескім ваяводзтвах ані воднае.

Сьледам ідзе і ліквідацыя беларускіх вучыцельскіх сэмінарыяў (у Сьвіслачы і Барунах) і — год за годам — беларускіх гімназіяў. Заснаваныя ў Будславе, Горадні, Нясьвіжу і Гарадку (каля Маладэчна) беларускія гімназіі існавалі кожная ня больш 1—3 гадоў. З пазасталых Радашкаўская гімназія трымалася да 1928 г., а Клецкая да 1931 г.

У бягучым школьным годзе існавалі гімназіі ў Вільні і Навагрдку, і заснаваная ў 1930 г. ў Вільні беларуская ўтраквістычная вучыцельская сэмінарыя імя Ф. Багушэвіча. Здавалася, што ўжо гэтым апошнім культурным асяродкам, якія знаходзіліся у руках людзей карыстаўшыхся найбольшы даверам Ураду удасца утрымацца. Але-ж не: Віленская беларуская вучыцельская сэмінарыя з канцом школьнага году зачынена зусім, што-ж да Віленскай і Навагрдзкай гімназіяў, дык, як падае „Беларуская Крыніца" у артыкуле „Беларуская школьная трагэдыя" — ад 10.IV. б. г. № 24, Куратарыум Віленскага Школ. Вокругу афіцыяльна запрапанаваў утварыць з гэтых самастойных гімназіяў роўналежныя клясы, з беларускай мовай навучаньня, пры аднэй з Віленскіх і Навагрдзкай дзяржаўных польскіх гімназіях, з перадачай ім нават маемасьці, хаця, прыкладам, у Вільні маемасьць не належыць да гімназіі, а да Т-ва Беларускае Школы, якое ў працягу многіх гадоў было канцэсіянэрам гімназіі і чатскова да Дабрадзейнага і Навуковага Т-ва. Прапазыка Віленскага Куратарыюма азначае тое, што абедзьве апошнія беларускія гімназіі губяць сваю самастойнасьць, сваё нацыянальнае аблічча і засуджаны — праз які год часу — на пэратварэньне ў чыста польскія школы. І тады ўжо канец сярэдняй беларускай школе, як падыходзіць ужо канец і пачаткаваму беларускаму школьніцтву. Недарма-ж як агульны сход Бацькоўскага Камітэту Гімназіі, так і ўсе беларускія грамадзкія ўстановы вынясьлі такі згодны, аднадушны пратэст.

Існуючыя на падставе т. зв. школьнага закону 31.VII. 1924 г. беларускія (21) і польска-беларускія (41) школы ніколі з часу іх заснаваньня (праз тры гады пасьля выхаду самага закону) ня былі запраўднымі беларускімі школамі. Дакладна ведама, што выкладовая мова ў іх амаль усюды польская, падручнікі ужываюцца польскія,—што-ж да беларускае мовы, дык добра, калі яна выкладаецца як прадмэт. Але якая наагул карысьць з такіх выкладаў, мо найлепш сьведчыць прыклад Хвалаўскае „беларускае" школы, Пружанскага павету, дзе вучыцель, хаця і беларус з паходжаньня, але як „сьпечаны на паляка ў польскай бурсе" (пісьмо з Хвалава), толькі раз на тыдзень, іменна па суботам, зьбірае вучняў усіх (!) аддзелаў разам і выкладае „па—беларуску". У Мілявіцкай школе, Слонімскага павету, вучыцель лічыць непатрэбным папраўляць вучнёўскія сшыткі з практыкаваньнямі ў беларускай мове

Ці рэагуюць на гэтыя дзіўныя „мэтады" выкладаньня навукі польскія школьныя ўлады — німа ведама. Пераважная большасьць вучыцялёў „беларускіх" школ (пра ўтраквістычныя няма чаго і гаварыць) зьяўляецца, як пісаў у 1930 г. Т. Галубка (гл. „Kurjer Wileński" Nr. 196—1930) „przybyszami z głębi Polski", якія могуць „porozumiewać się z dziećmi" хіба толькі „przez tłumacza" (аб аднэй такой вучыцельцы гаварыў на публічным сабраньні Віленскі Куратар („Słowo" 9.II. 1930 г. Nr. 33). „Taki przybysz, nie znając miejscowego języka, wmawia w dzieci, że są Polakami, zabrania im mówić po białorusku, wykpiwa ich język, wyznanie i obyczaje". Распараджэньне Прэзыдэнта забараняе на працяг 7 гадоў прасіць аб пэратварэньні існуючых польскіх школ у беларускія. Лік беларускіх школ зусім не павялічваецца, як бы гэта павінна быць пры нармальным стане рэчаў, хаця ў многіх мясцох люднасьць па 4—5 г. падрад дабівалася, шляхам складаньня т. зв. дэклярацыяў, беларускае школы. Але надарэмна! Вось кароткі і сумны малюнак сучаснага стану беларускага школьніцтва ў межах Польшчы. Але Народ, які магутна выявіў і што дня выяўлае сваю волю да жыцьця, ня згубіў веры ў свае сілы і мае ужо вялікія культурныя здабыткі павінен будзе і надалей дружна і настойліва дабівацца магчымасьцяў свабоднага культурнага разьвіцьця.

# ХРОНІКА Т-ВА.

*** Пастановаю Наваградзкага Ваяводы з дня 21.І. 1932 г. № 2778 зачынена Мірская Акружная Управа і належачыя да яе гурткі Т-ва на абшары сгаўпецкага павету: Мір, Ладкі, Вялікая-Слабада, Долгінава, Скорычы, Болтычы, Аталезь, Заямно, Рэпьёва, Сіняўская-Слабада, Вялікія-Жухавічы, Цэрабостынь, Лукі, Некрашэвічы, Бережная, Вечытарава, Дразды, Скомарошкі, Слабада, Ператокі, Шахаўшчына, Стары-Сьвержань, Нечэртава, Трошчыцы, Стоўпцы, Малыя-Жухавічы, Далматаўшчына, Хлюпічы, Антонава, Бярозаўцы і Крынкі.

*** Пастановаю Наваградзкага Ваяводы з дня 10 траўня 1932 г. № 51 зачынены гурткі Т-ва ў м. Азярніцы і вв. Дзежкавічы, Вострава і Смаўжы, Слонімскага павету.

*** Беластоцкая Акружная Управа паведамляе, што у Гарадоцкім гуртку Беластоцкага павету 28.V. г. г. адбылася гэткая конфэрэнцыя. Павятовы Стараста і ваяводзкі прадстаўнік безпячэнства, прыехаўшы у Гарадок, заклікалі сябраў гуртка на нараду, на якой дамагаліся, каб Т-ва супрацоўнічала са стральцамі і „коламі млодзежы польскай“, а драматычная сэкцыя гуртка павінны пайсьці пад кіраўніцтва польскіх вычыцялёў, бо ў праціўным выпадку Т-ва будзе ліквідавана.

*** Шэнеўскі гурток Пружанскага павету два разы прасіў дазволу на спэктакль на дзень 8.І. г. г. Першы раз было адмоўлена з тае прычыны, што у праграме была пастаўлена дэкламацыя, а другі раз дазволілі пьесы: „На вёсцы“ і „Міхалка“, а забаранілі „Апошняе спатканьне“.

Забарона тлумачылась тым, што дэкламацыя і пьеса не маюць нічога супольнага з культурнаасьветнаю працай.

Ад даходу са спэктакля Пружанскае Староства пабрала 50 прац. на безработных.

*** Атрымана заява сялян вёскі Доравічаны, Ваўкавыскага павету на залажэньне гуртка.

*** На паведамленьне Галоўнае Управы аб залажэньні 5 гурткоў у Слонімскім павеце, п. Слонімскі Стараста прыслаў адмоўны эдказ.

*** Пан Наваградзкі Ваявода сваім пісьмом з дня 8.VІ. г. г. і наступным пісьмом з дня 15.VІ паведаміў Галоўную Управу аб зачыненьні гурткоў Т-ва Б. Ш. у паветах Слонімскім, Баранавіцкім і Наваградзкім.

У Слонімскім павеце зачынена дзейнасьць і разьвязаны гурткі: Бытэньскай воласьці Міравёўскі, Курылавіцкай воласьці Райзілаўскі і Мала Вольскі, Жыровіцкай воласьці Боравікоўскі і Залескі, Дзевяткавіцкай воласьці Манілаўскі і Ярутыцкі, Дзярэчынскай воласьці Мілявіцкі і Дораглянскі, Дзярэвнянскай воласьці Жагрыцкі, Шыдловіцкай воласьці Добра-Борскі і Петралевіцкі, Старавейскай воласьці Кабакоўскі і Галынкаўскі, Чамерскай воласьці Радлавіцкі, Мілканавіцкі і Варабьевіцкі, Міжэвіцкай воласьці Мікалаеўшчынскі, Вароніцкі і Клепацкі, Кастровіцкай воласьці Сеньнаўшчынскі, Ягнешчыцкі і Ганькаўскі.

У Баранавіцкім павеце зачынены гурткі ў вёсках Даманове і Ліхасельцах.

У Наваградзкім павеце зачынены ў вёсках: Ахонова, Дзятлаўскай воласьці, Агароднікі Дварэцкай воласьці, Засецю і Забалацьці, Карэліцкай воласьці, Горнай Руце, Нясутычах, Дольнай Руце, Сулятычах і Рацэмлях Гарадэчанскай воласьці, Сеньне і Полбне Любчанскай воласьці, Казловічы і Ятра Пачапаўскай воласьці, Дольнай і Балотца-Клінцах Шчорсаўскай воласьці, Рацзюкі Кушалёўскай воласьці, Асташыне і Любані Цырынскай воласьці, Радагошчы, Міратычы, Лёхдзе і Моладаве Райчанскай воласьці, Трасьцянцы, Налібоках і Зеняўшчыне Вселюбскай воласьці і ў Погірах.

*** Косаўская Акружная Управа зладзіла прадстаўленьне 8.І.32 г. у Косаўскім Народным Доме. Адыграна пьеса Аляхновіча „Дрыгва“. Даход ад спэктакля 75 зл. 75 гр.

20.ІІІ.32 г. заснаваны гурток у в. Міхнавічы, Івацэвіцкае вол., Косаўскага павету з лікам 30 сябраў і адчынена бібліятэка-чытальня.

Узнавілі дзейнасьць і працуюць гурткі у в. Галенчыцы, Гічыцы і Воля, Івацэвіцкае воласьці.

Адчынены бібл.-чыт. пры гуртках у в. в. Белавічы, Едчыкі і Кулешы, Косаўскае воласьці.

Байкаўскім гуртком, Ружанскай вол. адчынены курсы для неграматных.

19.VІ.32 г. зладжаны былі спэктаклі: Байкаўскім гуртком, які налічывае 100 сябраў, за адзін вечар 2 сэансы па 150 глядзельнікаў; Блізнянскім гуртком, Ружанскае вол. у сваім Народным Доме з 300 глядзельнікаў; у в. Квасавічах, Косаўскае вол. адыграны пьесы: „Дахапаліся“ і „Каліісь“, глядзельнікаў было 150 асоб, даходу 42 зл., Галенчыцкім гуртком зладжана вечарына, якая дала 38 зл. даходу.

Косаўская Акружная Управа у траўні і чэрвені м-цы гэтага году прыняла ў лік сябраў Т-ва 63 новых асоб.

# Гутаркі і чуткі.

Ў беларускім грамадзянстве пачалі пашырацца гутаркі, якія пранікні і ў прэсу, ня толькі ўжо беларускую, але і украінскую, аб праектаваный быццам передачы сучаснай Галоўнай Управай, ці некаторымі сябрамі яе, кіраўніцтва Таварыствам санацыі, ці тварэньні нейкай „новай“ беларускай санацыі.

Гэтыя гутаркі і чуткі ставяцца ў сувязь з „гарбаткай“ у грам. Уласава.

Гэтым сьцьвярджаем, што Галоўная Управа ня думала і ня думае перадаваць Таварыства ані санацыі, ані іншай палітычнай групе, уважаючы, што Таварыства быўшае дагэтуль і зьяўляючаяся цяпер апалітычнай культурна-асьветнай арганізацыяй, павінна і наперад стаяць на апалітычным грунце.

Таксама гутаркі аб нейкай новай санацыі, німа ведама якой, зусім безпадставаўны і наагул Галоўная Управа, ані паасобныя сябры яе не вядуць ніякай тайнай дыпляматы.

# Акружным Управам і Гурткам Т-ва.

Галоўная Управа падае да ведама усіх гурткоў, што злучэньне Т-ва Беларускае Школы з іншымі арганізацыямі, (як стражы агневыя, стрэльцы, кулка млодзежы) пярэчыць нашаму Статуту і таму ня можа мець мейсца, тым балей, што гэтыя арганізацыі маюць іншыя заданьні — не асьветнага характару, як прыкладам арганізацыі стрэльца, ці стражы агнёвай, або маюць на мэце разьвіцьце польскай нацыянальнай культуры, што такжа не уваходзіць ў статутовыя заданьні Т-ва, як беларускай нацыянальна культурнай арганізацыі.

---

Галоўная Управа да гэтага часу ня мае справаздачаў аб дзейнасьці і працы гурткоў Беластоцкага павету, дзеля чаго немагла падаць дакладных вестак аб Беласточчыне у гэтым бюлетэні.

Адносячы гэта да недагляду ў працы з боку Беластоцкае Акружнае Управы, якая не падае вестак аб працы гурткоў у такі адказны час, Галоўная Управа напамінае сябрам Беластоцкае Акружнае Управы—прылажыць усе стараньні і даць справаздачы аб тым, што зроблена за ўвесь час і што робіцца у гуртках уваходзячых у склад Беластоцкае Акружнае Управы.

Такія справаздачы павінны прыслаць безпасярэдня у Галоўную Управу таксама і ўсе гурткі іншых паветаў, дзе няма Акружных Упраўаў.

# Аб арганізацыі працы гуртоў і падрыхтоўцы да Агульнага Сходу.

Вялікія заданьні мае перад сабою Т-ва.

У першую чаргу і надалей патрэбна вясьці неаслабную працу над пашырэньнем народнае сьведамасьці сярод беларускіх масаў; гэтага можна дасягнуць праз кніжку ў роднай мове, праз песьню і драматычнае прадстаўленьне, праз змаганьне усіх слаёў народа за сваю родную школу, праз арганізаваньне Народных Дамоў і бібліатэк чытален,

Другім па сваей важнасьці заданьнем перад сябрамі Т-ва стаіць задача паноўнае арганізацыі і ўзнауленьня дзейнасьці Т-ва ў тых частках нашае Бацькаўшчыны. дзе яно заняпала, зьліквідавана ці бязьдзейнічае, дзякуючы прычынам вонкавага, а часам і унутранага характару.

І трэцяе заданьне, якое павінна быць выра шана найпазьней у верасьні бягучага году, гэта скліканьне Агульнага Сходу дзеля укамплектаваньня Цэнтральных органаў Т-ва, Галоўнае Управы і Нягляднае Рады.

Каб зьдзейсьніць усё гэта, працаўнікам і сябрам Т-ва прыдзецца зрабіць найвялікшыя высілкі, выявіць сваю ахвярнасьць і моцную волю да утрыманьня і пашырэньня запрауды адзінае, слаўнае беларускае культурна-асьветнае арганізацыі

Т. Б. Ш. на грунце шырокае працы сярод нашага народу.

На гэтым мейсцы дзеля практычнага кіраваньня падаюцца агулу сябраў Т-ва выпрацаваныя жыцьцём згодна статуту і законаў Польскае Рэспублікі некаторыя парады, што да закладаньня новых гурткоў і іх легалізацыі, адчыненьня бібліятэк-чытальнень і г. д.

**ЗАЛАЖЭНЬНЕ НОВЫХ ГУРТКОЎ І ПРЫЙМО У СЯБРЫ ТБШ.** Сябрамі гуртка могут быць толькі асобы паўналетнія, маючыя ня менш 21 году, (асобы ад 18 да 21 году могут быць сябрамі дапамагаючымі без права рашаючага голасу на сабраньнях гуртка і без права быць выбранымі у органы гуртка). Для залічэньня у сябры ТБШ, трэба падпісаць асобную заяву, форму якой можна атрымаць у Галоўнай або Акружнай Управе.

Каб залажыць гурток, трэба ня менш 10 сябраў На заяве кожын сябра распісваецца уласнаручна у адпаведным мейсцы. Заява падаецца у двох экзэмплярах з абавязкавым паказаньнем кожным сябрям свайго веку. Падпісаўшыя заяву вызначаюць на ёй дачаснага кіраўніка дзеля арганізацыі і залегалізаваньня гуртка. Калі у павеце ёсьць Акружна Управа, дык заява вызначаным дачасным кіраўнікам гуртка пасылаецца у Акружную Управу, а калі яе няма, то у Галоўную Управу па адрэсу: Вільня, Кіеўская 4—24. Па атрыманьні заявы Акружная або Галоўная Управа высылае на імя дачаснага кіраўніка сяброўскія білеты і разам усе паперы на залажэньне гуртка, як то: дублікат паведамленьня Старасьце аб залажэньні гуртка, паведамленьне Старасьце на арганізацыйны сход і дублікат гуртку і пасьведчаньне для дачаснага кіраўніка. Арыгінал паведамленьня аб залажэньні гуртка, з далучэньнем заверанага Управай статуту і копіі заявы, Акружнаю або Галоўнаю Управай пасылаецца беспасярэдня у Старостваа. У паведамленьні на арганізацыйны сход дачасны кіраўнік павінен сам вызначыць дзень і гадзіну, таксама мейсца сходу і адказную асобу і, падпісаўшы у паказаным мейсцы, пасляць ад сябе Старасьце. Калі пасляць поштаю, дык абавязкава заказным пісьмом не пазьней як за 8 — 10 дзён да сходу. Паштовую расьпіску трэба абавязкава захаваць. Можна такжа здаць асабіста у канцэлярыі павятовага Староства пад распіску. Калі пасьля выкананьня усіх вымаганых фармальнасьцяў ня будзе да вызначанае гадзіны забароны, то сход можа адбывацца.

**АРГАНІЗАЦЫЙНЫ** сход адбываецца у вызначаным мейсцы і у вызначаную гадзіну. Пасьля выбараў старшыні і сэкрэтара сходу абгаварваюцца і выносяцца пастановы па ўсім пунктам, якія стаяць на парадку дня, імення: выбар управы гуртка з двума кандыдатамі да сябраў управы і іншыя, як пастанова аб залажэньні бібліятэкі-чытальні, выбар загадчыка бібліятэкі-чытальні, арганізацыя драматычнай ці харавой сэкцыі і пад. Дробныя пытаньні парушаюцца у бягучых справах. На сходзе рашаючы голас маюць толькі правамоцныя сябры ТБШ. Адказная асоба глядзіць за парадкам на сходзе і каб пастановы і дыскусія сходу не выходзілі па-за рамкі істнуючых законаў і статуту ТБШ. Усе пастановы сходу запісваюцца у асобнай кнізе пратаколаў агульных сходаў. Пратакол падпісваецца сябрамі прэзыдыюму сходу. Копія пратаколу арганізацыйнага сходу, з паказаньнем сядзібы гуртка і памешканьня бібліятэкі-чытальні, таксама з дакладнымі адрасамі усіх выбраных асоб, безадкладна пасылаецца у Акружную або Галоўную Управу.

**ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ ГУРТКА.** Калі адбыўся арганізацыйны сход і выбрана Управа гуртка, то Галоўная ці Акружная Управа паведамляюць павятовага старасту аб выбраным складзе і сядзібе Управы гуртка.

**ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ БІБЛІАТЭКІ-ЧЫТАЛЬНІ.** Выбраному на агульным сходзе загадчыку бібліатэкі-чытальні Акружная, або Галоўная Управа пасылае два бляңкі падпіскі і формы „осьвядчэньня". Загадчык запаўняе гэтыя паперы адпаведнымі дадзенымі, падпісвае і зварочвае заказным пісьмом назад; „осьвядчэньне" павінна быць падпісана і сьцьверджана гродзкім судзьдзёй ці натарыюсам. Па атрыманьні ад загадчыка гэтых папераў, Акружная або Галоўная Управа пасылае адпаведнае паведамленьне Старасьце і адначасна— афіцыяльнае пасьведчаньне загадчыку бібліятэкі на выконваньне ім яго абавязкаў.

Перад распачацьцем працы гурток павінен паведаміць Староства, дзе будзе мясьціцца бібліятэка і ў якія дні і гадзіны будзе адчынена.

**УПРАВА ГУРТКА** кіруе усімі яго справамі. Управе гуртка пераважна належыць ініцыятыва і арганізацыя усяе працы.

Паасобныя сябры Управы маюць, апрача чыста арганізацыйных і кантрольных функцыяў, яшчэ і спэцыяльныя абавязкі сэкрэтарства, рахунковасьць і інш. Старшыня гуртка мае агульны нагляд за працай і парадкам у гуртку, пашырэньнем яго уплываў на вёсцы, за правільным вядзеньнем канцэлярыі і рахунковасьці. Касавая кніга павінна быць пранумэравана і пасьведчана у Акружнай або Галоўнай Управе. Управа гуртка на вясну, перад пачаткам вясеньніх работ прысылае гадавую справаздачу аб працы гуртка у Акружную або Галоўную Управу. Апрача гэтага Управа гуртка паведамляе аб усіх падзеях у жыцьці гуртка.

**СЭКРЭТАР** адказвае за канцэлярыю гуртка, вядзе усю перапіску за подпісам старшыні, павінен захоўваць у парадку усе паперы і канцэлярскія кнігі, як-то: кнігу пратаколаў, кнігу уваходзячых і выходзячых папераў, іменны сьпіс усіх сябраў гуртка і г. д.

**СКАРБНІК** вядзе касавую кнігу, прыймае і выдае грошы і адпаведныя грашовыя дакумэнты. Касавая кніга павінна быць пранумэрована і пасьвэдчана у Акружнай або Галоўнай Управай. Кожнае паступленьне у касу гуртка павінна быць зараз-жа упісана у кнігу на левай старонцы (прыход). Пры упісаньні трэба дакладна і выразна зазначыць, ад каго і на якую мэту паступілі грошы. Кожная выдача грошаў таксама зараз-жа упісваецца у кнігу на правай старонцы (расход), прычым трэба дакладна ўпісаць каму і за што

грошы выданы. Кожын месяц падводзіцца агульная сума прыходу і расходу за месяц, а выведзены астатак па касе пераносіцца на І-шы дзень наступнага месяца.

Паседжаньні управы гуртка адбываюцца у тым памешканьні, дзе паказана сядзіба гуртка — без паведамленьня адміністрацыі ці паліцыі. У разе перамены памешканьня гуртка, або бібліятэкі-чытальні Управа безпазярэдня пав дамляе аб гэтым Староства.

**ПРАЦА ГУРТКА** мае характар культурна-асьветны і выражаецца у наступным: заха ды аб адчыненьні у вёсцы беларускае школы, з выкладовай мовай беларускай, з сыстэматычным вывучаньнем беларускай мовы, з вучыцялямі-беларусамі з беларускімі падручнікамі, з усім укладам беларускім; адчыненьне бібліатэкі-чытальні, з арганізацыяй пры ёй сумеснага чытаньня; пашырэньне беларускае кніжкі; вячэрнія курсы дла дарослых і няпісьменных; ладжаньне лекцыяў і рэфэратаў — сваімі сіламі і сіламі запрошаных лектараў, ладжаньне народных хораў, вечарын з дэклямацыяй, сьпевамі, музыкай і г. п.

Вельмі пажадана злучэньне некалькіх суседніх гуткоў. для пастаноўкі супольнымі сіламі спэктакляў і канцэртаў.

Наагул гурткі павінны подтрымліваць самую жывую сувязь з суседнімі гурткамі, таксама як з сваей Акружнай так і Галоўнай Управай. Ад гэтага культурна-асьветная праца Т. Б. Ш. толькі пашырыцца і узмацуецца. Галоўнай Управе вельмі важна атрымліваць рэгулярныя справаздачы гурткоў, аб іх бягучай працы, стане бібліятекі і інш., таксама і пляны на будучыню.

Бібліятэка-чытальня вымагае асаблівае увагі усіх сяброў гуртка.

Перадусім трэба кніжкі набываць у бібліатэках не абы якія, а толькі найбольш адпавядаючыя запатрэбаваньням нашага працоўнага народу, якія нясьлі-бы грамадзкае усьведамленьне, давалі-б навуковую веду, пашыралі-б культуру, а ў галіне эканамічна-гаспадарчага жыцьця спрычыняліся-б да палепшаньня гаспадарчага і хатняга быту нашага селяніна.

З літэратуры беларускай у бібліятэку аба вязказа павінны ўвайсьці ўсе т. зв. клясычныя, г. ё. найлепшыя творы нашых пісьменнікаў і паэтаў.

У кожнай бібліятэцы павінен быць аддзел школьны і дзіцячы, якія-б складаліся з адпаведных беларускіх кніжак. Школьны аддзел набывае тым вялікшага значаньня, што дзякуючы ненармальным умовам жыцьця дзеці нашых сялан і работнікаў на маюць роднае школы, пазбаўлены магчымасьці вучыцца у школе ў роднай мове, чытаць па роднай кніжцы, вучыцца роднаму пісьму. Усе гэтыя недахопы у пэўнай меры павінна папоўніць вясковая бібліятэка, ідучы насустрэч імкненьням да самаадукацыі.

Кожная бібліятэка павінна мець каталёг кніжак, і кнігу для запісваньня выдаваных кніг.

У кожнай бібліятэцы павінны быць вызначаны гадзіны, калі бібліятэка адчынена і калі робіцца прыймо і выдача кніг.

Загадчык павінен сачыць, каб было ціха, адзін аднаму не перашкаджалі, каб хто колечы з мэтай правакацыі не прынёс у бібліятэку недазволеных рэчаў.

На падставе гэтых практычных парадаў трэба нанава арганізаваць гурткі, там дзе яны былі зачынены, або залажыць новыя, калі гэта будзе выгадней па мясцовым варункам. Пасьля ажыўленьня працы у гуртках, будуць вызначаны павятовыя сходы дзеля выбару дэлегатаў (чатырох ад павету) на Агульны Сход у Вільні. Кожын павет павінен даць магчыма поўнае прадстаўніцтва, а кожны дэлегат мусіць як найглыбей выявіць культурна-асьветныя патрэбы нашага беларускага народу.

Выдавец: Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. Рэдактар: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Drukarnia Jana Bajewskiego, Wilno, Mostowa 9.